


# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

29 красавіка 2016 года №18 **(1096)**



З Вялікаднем!

Са святам 1 Мая!

Удзельніца "Міс Беларусь" Анастасія Сарока з Маладзечна:



**"Схуднеласцю сёння нікога не здзівіш. А вось прыгожым целам здзівіць можна"**

старонка **21**

**Як будзе працаваць транспарт на Радаўніцу ў Вілейцы і Маладзечне**

старонка **3**



НАДЗЕЯ НАДЗЕЯ НАДЗЕЯ НАДЗЕЯ

# ЧАРНОБЫЛЬ

# 80 000

## дзяцей адпачылі ў аздараўленчым цэнтры "Надзея – 21 стагоддзе", які быў створаны для рэабілітацыі пацярпелых ад ЧАЭС

старонка **2**

Фота neweurope.eu.

# Могуць з'явіцца дзве новыя вуліцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі раённы Савет дэпутатаў апублікаваў прапанову на афіцыйным сайце райвыканкама 27 красавіка.**

Прапаноўваюць перайменаваць элементы вулічна-дарожнай сеткі ў раёне індывідуальнай забудовы "Фестывальны".

Каб даць адрасы новым пабудаваным дамам, абвешчанае грамадскае абмеркаванне. Прапануюць перайменаваць два ўчасткі – адзін на цяперашняй вуліцы Заслаўскай, а другі – на вуліцы Красненскай.

Прапановы па перайменаванні

1. Цяпер выкарыстоўваецца назва: вуліца Заслаўская (участак ад вуліцы Сучаснай да перакрыжавання з Праектуемай вуліцай №6). Прапаноўваюць перайменаваць на вуліцу Зорную (у перадачы на рускую – улица Зорная).

2. Цяпер выкарыстоўваецца назва: вуліца Красненская (участак ад вуліцы Сучаснай да перакрыжавання з Праектуемай вуліцай №11). Прапаноўваюць перайменаваць на вуліцу Ліпеньскую (улица Липеньская).

Меркаванні жыхароў па гэтым пытанні могуць быць накіраваныя цягам аднаго месяца ад апублікавання на адрас: Маладзечна, вул. Віленская, 6, ці на электронны адрас: molsovdep@gmail.com.

**Паводле сайта Маладзечанскага райвыканкама.**

# Абмяркуюць праблемы аховы помнікаў гісторыі і культуры

МЯДЗЕЛ

Ад 30 красавіка да 1 мая пройдзе навукова-практычная канферэнцыя "Праблемы аховы і інтэрпрэтацыі помнікаў гісторыі і культуры. Грамадска-дзяржаўнае партнёрства".

Адбудзецца яна на аграрурыстычным комплексе "Наносы-Навасёлле" на Мядзельшчыне.

Прысвячаецца канферэнцыя Міжнароднаму дню аховы помнікаў і гістарычных мясцін. У праграме будзе шэраг дакладаў, прысвечаных нашаму рэгіёну.

**Аддзел інфармацыі.**

## МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# 80 000 дзяцей адпачылі ў "Надзеі"

ВІЛЕЙКА

**У дзіцячым цэнтры на 30-ю гадавіну аварыі на ЧАЭС прэзентавалі брашуру з гісторыямі дзяцей.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На заканчэнні мітынгу-канцэрта дзеці, госці і супрацоўнікі цэнтра сімвалічна ўпрыгожылі кветачкамі мадэль зямнога шара. У цэнтры здымка – намесніца старшыні Вілейскага райвыканкама Святлана Дзяруга, справа – дырэктар цэнтра Вячаслаў Макушынскі.

– "Надзея" шмат змяніла ў маім жыцці. Нават паўплывала на выбар прафесіі. Тут убачыў такіх добрых настаўнікаў, з якіх браў прыклад і якіх помню дагэтуль, – кажа **Вадзім Заяц.**

Ён у 1994 годзе на цэлую чвэрць прыехаў на аздараўленне ў "Надзею" з вёскі Вялікі Бор у Хойніцкім раёне.

– Тут яшчэ шмат дзе ішла рэканструкцыя. Паўдзельнічаў у адкрыцці цэнтра. Нас выбралі трох чалавек, і мы нейкую прамову казалі. Быў такі туман! – прыгадвае.

Было яму тады 13 гадоў. Потым як педагог прывозіў сваіх вучняў са школы. Але цяпер цэнтр не пазнаў:

– Не парадаць, настолькі ўсё змянілася, усё разбудавалася. Настолькі прыгожа – "маленькая Швейцарыя".

Гісторыя Вадзіма ўвайшла ў брашуру "Надзея" ў маім сэрцы". Яе прэзентацыя стала адной з падзей, якія прайшлі ў дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры да 30-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі. На іх запрасілі шмат гасцей – прыехаў з Германіі намеснік старшыні грамадскага аб'яднання "Дзеці з Жыткавічаў – жыццё пасля Чарнобыля" **Вернер Босарт.**

### Досвед "Надзеі" выкарыстоўваюць у Японіі

Напярэдадні, 25 красавіка, цэнтр наведала дэлегацыя з Японіі. Аўторак пачаўся з мітынгу-канцэрта "30 гадоў: памятаем, спадзяёмся, верым". На ім прыгадалі пра трагічныя падзеі тых часоў, гісторыю стварэння цэнтра.

Дырэктар цэнтра **Вячаслаў Макушынскі** назваў "Надзею" "нашым агульным беларуска-нямецка-японскім домам":

– Таму што прадстаўнікі гэтых краін у большай ступені прымалі ўдзел у стварэнні і развіцці цэнтра. Сёння партнёрамі "Надзеі" з'яўляюцца прадстаўнікі 12 краін свету – людзі, абсалютна неабыякавыя да таго, што прынёс Чарнобыль на беларускую зямлю.

Пра гэта сведчыць і такі эпізод, які адбыўся пасля аварыі на АЭС у Фукусіме ў Японіі ў 2011 годзе.

– Ніколі не забуду, як мы з калегамі прынялі рашэнне і звярнуліся да нашых японскіх партнёраў: "Дарагія сябры, усю гэту дапамогу, якую вы сёлета планавалі накіраваць у "Надзею", калі ласка, пакіньце ў Японіі – каб аказаць дапамогу японскім дзецям". І адразу атрымалі адказ: "Не. Мы не можам не аддаць гэтыя грошы нам, бо японцы збіралі іх для дзяцей Беларусі. Але мы абяцаем вам, што прыкладзём усё намаганні, каб сабраць дадатковыя фінансавыя сродкі і дапамагчы дзецям Фукусімы", – прыгадаў Вячаслаў Макушынскі.

У Японіі адкрылі дзіцячы цэнтр "Куміна Сато", і досвед "Надзеі" выкарыстоўваць там.

На канцэрце і потым гучалі вершы ды песні віляйчаніна **Уладзіміра Цануніна**.

– Гэта самае высокая адзнака, калі твае вершы дзеці чытаюць, – кажа ён.

Уладзімір у "Надзеі" адпрацаваў дваццаць год настаўнікам гісторыі. І напісаў пра цэнтр больш за дзве тысячы старонак розных твораў.

### "Дзякуй за напаўненне дзяцінства яркімі фарбамі!"

Яшчэ 26 красавіка быў конкурс малюнкаў і, вядома, прэзентацыя брашуры.

За гады існавання цэнтра тут адпачыла каля 80 тысяч дзяцей. Гісторыі 20 з іх сабралі ў брашуры: тых, хто прыязджаў сюды з забруджанай зоны, і дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі. Некаторыя з аўтараў ужо дарослыя. Многія прыехалі на прэзентацыю.

– Першыя дзесяць экзэмпляраў брашуры вазіў у Брусель на пасяджэнне Еўрапарламента, – кажа намеснік старшыні агульнага сходу ўдзельнікаў дзіцячага цэнтра **Аляксандр Рухля.** – Гэтыя брашуры чакаюць нашы партнёры ў Германіі. Бо адна справа, калі мы расказваем, як у "Надзеі" хораша. А іншая – знаёміцца са шчырымі і даверлівымі гісторыямі дзяцей.

У гэтых гісторыях багата цёплых слоў для супрацоўнікаў цэнтра: "Дзякуй за крылы за спінай у майго хлопчыка!", "Надзея" незвычайная ўжо тым, што ў ёй не карпусы, а "дамы", "Дзякуй за напаўненне нашага дзяцінства яркімі фарбамі!"

На прэзентацыі брашуры было столькі шчымлівых момантаў. Хвілінай маўчання ўшанавалі памяць аўтара адной з гісторый, 18-гадовага **Дзяніса Крупскага**, якога нядаўна не стала. Прыгадалі слёзы расставання і перадавалі прывітанне дзецям, які адпачывалі тут 20 год таму.

– Калі мы атрымалі і сталі перачытваць гісторыі, слёзы наварочваліся на вочы, – кажа намесніца дырэктара цэнтра па вучэбна-выхаваўчай рабоце **Вера Толсцікава**. – Але гэта былі слёзы радасці. Таму што ты разумееш: тое, што мы рабілі тады і што робім цяпер, – яно мае вельмі вялікае значэнне ў жыцці дзяцей.

Мама **Івана Чыбісава**, **Алена**, прывезла малюнкі дзяцей з вёскі на Магілёўшчыне. Расказала такую гісторыю:

– Падышоў адзін хлопчык з малазабяспечанай сям'і, дастаў з-пад курткі малюнак і папрасіў, каб яго сюды перадала. Ён па памяці намаляваў "Надзею" ў яго сэрцы. Я глядзела і разумела, колькі ў малюнку суму, што ён ужо па ўзросце сюды не зможа прыехаць.

### "Каб не было больш такіх аварый, як чарнобыльская"

У гэты дзень у "Надзею" таксама запрасілі ліквідатараў аварыі і сведкаў тых падзей. У іх адрас гучалі апладысменты на мітынгу. Яны, як і аўтары гісторый, сустракаліся з дзецьмі.

**Валеры Германенка** цяпер жыве ў Людвінове на Вілейшчыне. Пераехаў сюды з Хойніцкага раёна, дзе жыў непадалёку ад 30-кіламетровай зоны. У цэнтры сустрэўся з ураджэнцамі з Брагінскага, Калінкавіцкага і Веткаўскага раёнаў.

– Так прыемна было: як самых блізкіх і дарагіх людзей сустрэў! – дзеліцца.

**У расказе дзецям ён прыгадваў, як неўзабаве пасля аварыі вяскоўцы адчулі пяршэнне ў горле, прысмак жалеза на языку, санлівасць. Як баяліся за дзяцей.**

І пажадаў:

– Каб вы ніколі не бачылі таго, што давялося перанесці нам, і дажылі тым, што маеце.

У канцы сустрэчы ўсе па традыцыі ўзяліся за рукі і казалі свае пажаданні. Апроч мноства бясконца шчырых пажаданняў, з вуснаў дзяцей гучала і такое: "Каб не было больш такіх аварый, як чарнобыльская".


Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

● КОНКУРС "РГ"

# Што Лебедзевы набылі за выйгрыш у конкурсе "Кіруй грашыма"

**По выніках галасавання чытачоў пераможцамі конкурсу "РГ" стала сям'я Лебедзевых з Маладзечна.**

Яны атрымалі 47% ад усіх галасоў. У галасаванні паўдзельнічала 272 чалавекі.

На ўзнагароджанне Анастасія прыйшла з сынам Уладзікам і мужам Аляксандрам. Дочкі Ліза і Каця ходзяць у садок, таму загадзя выказалі свае пажаданні на пакупкі.

Анастасія распавяла, што на адзін мільён рублёў тыдзень можа пражыць нават сям'я з пяці чалавек. Але тады трэба не набываць паўфабрыкаты, а гатаваць самой.

Аляксандр і Анастасія жанатыя сем год. Аляксандр адзначыў, што ў іх з жонкай крыху розныя перавагі ў харчаванні. Ён сам па адукацыі повар і лічыць, што ў сям'і павінна быць першая, другая стравы, плюс салацік перад абедам. Анастасія ж разам з дочкамі – аматаркі салодкага, без якога проста не могуць пражыць.

Лебедзевы ўлічылі, што ім давядзецца жыць з набытым наборам прадуктаў тыдзень, напярэдадні якога яны адзначаць Вялікдзень. Урэшце муж і жонка адправіліся ў магазіны. Пра вынікі паходу піша Анастасія.

**Як Лебедзевы размеркавалі бюджэт**

Для таго каб прааналізаваць спіс пакупак на тыдзень нашай сям'і, трэба ведаць і ўлічваць некалькі асаблівасцяў.

Нас пяць чалавек, з іх трое дзяцей. Старэйшыя Ліза і Каця (5 і 4 гады) пяць дзён на тыдзень ходзяць у дзіцячы садок №19 і харчуюцца там.

На малодшага Уладзіка, якому паўтары годзікі, мы атрымліваем ад дзяржавы дзіцячае харчаванне. У яго ўваходзяць: сумесь, кашы, сокі, мясныя, фруктовыя пюрэ, а таксама з гародніны. Разам з намі за агульным сталом ён ужо есць суп і некаторыя другія стравы.

Атрымліваецца, што гэты мільён трэба размяркоўваць на харчаванне на тыдзень для дваіх дарослых і ў выхадныя для ўсёй сям'і.

Яшчэ адна адметнасць нашай сям'і – гэта тое, што мы любім салодкае. Найбольш такія прысмакі, як вафлі, цукеркі, зефір, пячэнне. Пячэнне часта выпякаем дома з варэннем. Так больш натуральна, эканомна і смачна.

На бліжэйшых выхадных Вялікдзень. Для святочнага стала мы купілі: 3 дзясяткі яек, муку, алей, тварог, сыр, кілбасу с/в, фарш для катлет, селядцы, свініну, курыцу, зефір, цукеркі, ёгурт.

Пра карысную садавіну і гародніну мы таксама не забываем: капуста, морква, цыбуля, часнок, яблыкі, бананы.




Галоўны рэдактар "РГ" уручае сертыфікат Анастасіі Лебедзевай. Жанчына прыйшла на ўручэнне з сынам Уладзікам.

Садавіна і гародніна абышлася ў 104 тысячы рублёў.

У нас ёсць бабуля ў вёсцы, якая дзецям даводзіцца прабабуляй. Яна заўсёды дапамагае з гароднінай: бульбай, агуркамі і памідорамі. Іх мы не купляем.

Летам мы збіраем і замарожваем ягады, а пасля ўвесь год варым свежыя кампоцікі. Вось і на Вялікдзень мы не купляем сок, зварым напой са сліў.

Кожныя выхадныя любімы суп для ўсёй сям'і – боршч. Вялікай каструлі хапае на два дні. Пасярод тыдня варым шчаўе, курыны суп з макаронай ці рысам, капусту, гарохавы суп.

Найбольш эканомна з мяса гатаваць розныя гуляшы і падліўкі. Асабліва смачна іх гатуе тата – муж Саша, першая спецыяльнасць якога – повар.

А на гарнір мы бяром крупы. Цаной найбольш прыцягвае ячневая і пярловая.

Яшчэ любім пячы бліны.

Да вечара мы ўзгадалі, што не купілі галоўнае – хлеб і батон.

Вось і ўвесь мільён.

А ўвогуле, сям'я ў нас вясёлая, дружная, мы верым ва ўдачу і не сумуем.

Калі ёсць прысмакі, ядзім іх імі, калі няма – можам проста паабдымацца. Дзіцячыя пацалункі саладзей за любыя цукеркі!

**Чэк з падрабязным апісаннем пакупак глядзіце на сайце rh.by.**

**Аддзел інфармацыі.**

**Чытайце ў наступным нумары: Як размяркоўваць сямейны бюджэт правільна, раіць псіхолаг Таццяна Жданава.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**29 217** столькі абортаў было ў 2015 годзе

**Колькасць абортаў змяншаецца:**

У 2015 годзе на 100 родаў – **24,7** аборта

У 2014 годзе – **25,3** аборта

Паводле Белстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 21.04 руб. | 28.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 19 849,00 | **19 495,00** |
| Еўра | 22 536,00 | **22 075,00** |
| Злоты | 5 296,57 | **5 053,90** |
| Расійскі рубель | 301,52 | **299,08** |
| Грыўня | 778,22 | **777,85** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 27.04** | | |
| Еўра | 22400/22700 | **21720/22150** |
| Долар ЗША | 19700/19870 | **19280/19650** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 20.04 Цана руб. | 27.04 |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 179 800 | **179800** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | **29800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | **80000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 42 500 | **42500** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **53000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **135000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 19 500 | **19500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 500 | **16500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24000** |
| Маянэз, 200 г | 8 300 | **8300** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | **9900** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 64 900 | **79500** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 14 900 | **17000** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 9 900 | **12900** |
| Баклажаны, 1 кг | 49 900 | **58900** |
| Лімоны, 1 кг | 47 000 | **40000** |
| Апельсіны, 1 кг | 25 000 | **25000** |
| Мандарыны, 1 кг | 40 000 | **35000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 24 500 | **25000** |
| Ківі, 1 кг | 30 000 | **29900** |
| Буракі, 1 кг | 5 500 | **6000** |
| Памідоры, 1 кг | 35 000 | **37000** |
| Агуркі, 1 кг | 27 000 | **28000** |
| Перац, 1 кг | 50 000 | **58900** |
| Радыска, 1 кг | 35 000 | **29900** |
| Кабачок, 1 кг (малады) | - | **29900** |
| Вінаград, 1 кг | 45 000 | **38500** |
| Бананы, 1 кг | 25 000 | **29000** |
| Гранаты, 1 кг | 35 000 | **40000** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 50 000 | **55000** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 000 | **13000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 25 000 | **25000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 60 000 | **60 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## Як будуць працаваць аўтобусы на Радаўніцу

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ад 6 да 9 мая маладзечанскі аўтапарк дае дадатковы гарадскі маршрут: **плошча Старое Места – Лазавец.**

На гэты маршрут пасажыры змогуць садзіцца каля школы 5. Ад плошчы Старое Места рэйс будзе адпраўляцца ў 10:00, 10:50, 11:40, 12:30, 13:20, 14:10, 15:00, 15:50.

Назад ад Лазаўца аўтобус адпраўіцца ў 10:25, 11:15, 12:05, 12:55, 13:45, 14:35, 15:25, 16:15.

**10 мая**, на Радаўніцу, ад 9:00 да 16:40 аўтобус ад Старога Места да Лазаўца будзе адпраўляцца кожныя 12 хвілін. Пасадка таксама каля школы №5.

Гарадскі маршрут **№5** 10 мая на ўчастку Старое Места – вуліца Велікасельская будзе ехаць праз АЗС "Юнайтэд Компані".

Гарадскі аўтобус **№6** 10 мая будзе ездзіць па графіках рабочага дня, а маршрут пацягнуць да прыпынку "Вёска Насілава".

На майскія святы грамадскі транспарт будзе працаваць па наступных графіках:

**Горад:** ад 7 да 10 мая – па графіку выхаднога дня.

**Прыгарад:** 6 мая – па раскладзе пятніцы,

7 мая – па раскладзе суботы,

8 мая – па раскладзе нядзелі,

9 мая – па раскладзе панядзелка,

10 мая – па раскладзе нядзелі.

**Міжгарад:** маршрут Маладзечна – Мінск будзе працаваць без змяненняў усе дні, паводле раскладу.

Дадаткова:

6 мая – дадаецца рэйс **Маладзечна – Мінск.** Адпраўленне з Маладзечна – у 17:50, з Дружнай – у 19:45.

10 мая – дадаецца рэйс **Маладзечна – Мінск.** Адпраўленне з Маладзечна – у 18:10, з Дружнай – у 20:00.

Рэгулярны міжгародні маршрут **Маладзечна – Бараўляны** ад 7 да 10 мая працаваць не будзе.

**Паводле адміністрацыі "Аўтапарка №4".**

## Як на Радаўніцу даехаць на могілкі ў Вілейцы

**ВІЛЕЙКА**

У сувязі з Радаўніцай 10 мая ў Вілейцы будуць ездзіць дадатковыя аўтобусы па маршруце **№3** "Аранжарэя" – "Могілкі "Лясныя". Ад прыпынку "Аранжарэя" гэтыя аўтобусы будуць адпраўляцца з 9:30 да 15:00 праз кожныя паўгадзіны. А з "Могілак "Лясныя" – з 10:00 да 15:30 таксама праз паўгадзіны.

Яшчэ пойдуць аўтобусы па маршруце **№5** "Макаўе" – "Могілкі "Лясныя". Ад "Макаўя" аўтобусы пачнуць хадзіць у 9:10. І будуць рухацца праз гадзіну да 14:10. Ад прыпынку "Могілкі "Лясныя" аўтобусы будуць хадзіць з 9:40 да 14:40 праз гадзіну.

Пра гэта паведаміла вядучы інжынер аддзела перавозак аўтапарка №5 **Тамара Субач.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Зламыснік незвычайным чынам залез у гараж

ВІЛЕЙКА

Для гэтага ён зняў некалькі лістоў шыферу з даху. Адбылося гэта ў ноч на 18 красавіка.

Удзень у міліцыю звярнуўся гаспадар і паведаміў, што нехта пашкодзіў дах гаража, які размешчаны ў неахоўным гаражна-будаўнічым кааператыве №2 у Вілейцы.

Скралі адтуль кампрэсар, дызельную цеплаўстаноўку, перфаратар, набор ключоў, аўтамабільныя драты і іншую маёмасць. Прычыніў злодзей гаспадару страты на суму больш за 12 мільёнаў рублёў.

Узбудзілі крымінальную справу за крадзеж, праводзяць комплекс следча-аператыўных мерапрыемстваў па ўстанаўленні злачынцы, расказаў начальнік райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

## Налавілі рыбы на 76 мільёнаў рублёў

МЯДЗЕЛ

Адбылося гэта на возеры Свір. Два жыхары мястэчка Свір вечарам 13 красавіка паставілі сеткі на возеры.

Каля трох гадзін ночы паехалі на лодцы іх здымаць. За выманнем сетак іх заспелі супрацоўнікі аддзела аператыўнага рэагавання інспекцыі аховы жывёльнага і раслíннага свету.

Налавілі жыхары Свіры 32 кілаграмы рыбы. Здабычай сталі 14 ляшчоў, сем судакоў, пяць карасёў, па адным ліню і акуню.

Падлічылі, што прычынілі яны навакольнаму асяроддзю шкоды на суму больш за 76 мільёнаў рублёў.

Узбудзілі крымінальную справу за незаконную здабычу рыбы ў асабліва буйным памеры. Маладзейшы з дуэта летась пападаўся за браканьерства. Цяпер яны прымаюць захады па кампенсацыі шкоды, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Міхаіл Сакалдынскі**.

Жыхарам Свіры пагражае да шасці год пазбаўлення волі.

## Знік акумулятар, калі падмяняў бацьку-вартаўніка

МЯДЗЕЛ

Крымінальную справу па факце крадзяжу акумулятарнай батарэі з тэрыторыі ПМК-214 узбудзілі 6 красавіка.

У злачынстве падазраюць сына аднаго з вартаўнікоў. Малады жыхар Мядзела часам падмяняў бацьку на працы. Так было і ў ноч, калі знікла батарэя з аўтамашыны ГАЗ-5201.

Мядзяльчанін планаваў паставіць яе на сваю машыну, калі там сапсуецца акумулятар. Але не паспеў. Акумулятар забралі, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Міхаіл Сакалдынскі**.

Мядзяльчанін быў ужо судзімы за крадзеж.

**Аддзел інфармацыі.**

## Нецвярозы кіроўца наехаў на металічную агароджу

ВАЛОЖЫН, МЯДЗЕЛ

Пасля дзвюх гадзін ночы 24 красавіка на аўтадарозе Мінск-Гродна, паблізу Ракава, 36-гадовы мужчына не справіўся з кіраваннем "Сітраэна-С4". Машыну занесла, яна наехала на металічную агароджу, што раздзяляе сустрэчныя транспартныя патокі.

Малады пасажыр не быў прышпілены рамянём бяспекі. Атрымаў цялесныя пашкоджанні, але яго не шпіталізавалі.

Мужчына кіраваў "Сітраэнам" у стане алкагольнага ап'янення. Ён ужо раней быў пазбаўлены вадзіцельскага пасведчання.

А на Мядзельшчыне ўдзень у суботу, 23 красавіка, дарожна-транспартнае здарэнне адбылося на 106-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Калачы-Мядзел.

60-гадовы кіроўца на аўтамабілі "Фольксваген-Гольф" на закругленні дарогі выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з аўтамашынай "Хонда-Акорд". За рулём апошняй быў 33-гадовы мужчына.

У выніку шпіталізавалі абодвух кіроўцаў.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**








Банк у Беразінскім, дзе адбыўся напад.



Момант нападу.
Фота sk.gov.by.



# Банк у Беразінскім абрабаваў высокі хударлявы мужчына

## Дапамажыце адшукаць

МАЛАДЗЕЧНА

**21 красавіка каля 17:08 у Маладзечанскі РАУС паступіла паведамленне аб нападзе ад работніка аддзялення ААТ "Беларусбанк" у пасёлку Бярэзінскае.**

У 17:00 неўстаноўлены злачынца скарыстаўся тым, што ў банку не было наведнікаў, і, пагражаючы работніку аддзялення падобным да пісталета прадметам, выкраў не менш за 60 мільёнаў рублёў. Пасля чаго знік.

Раённым аддзелам Следчага камітэта ўзбуджаная крымінальная справа.

Цяпер супрацоўнікі УУС Мінскага аблвыканкама і УСК па Мінскага вобласці праводзяць комплекс аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, накіраваных на ўстанаўленне асобы злачынцы і раскрыццё злачынства.

Прыкметы злачынцы: з выгляду 25-30 гадоў, рост каля 185 см, хударлявы, апрануты ў куртку чорнага колеру, на галаве маска і капюшон светлага колеру, пры сабе меў чорную сумку. Супрацоўнікі міліцыі просяць усіх, хто можа аказаць дапамогу ва ўстанаўленні асобы нападніка, звязацца з дзяжурнай часткай Маладзечанскага РАУС. Кантактныя тэлефоны: **8-01767-716-56, 102**.

Канфідэнцыяльнасць гарантуецца.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Не саступіла дарогу, не ўбачыла знака, не заўважыў машыну

МАЛАДЗЕЧНА

**Пятніца, 22 красавіка, апынулася для Маладзечна надзвычай аварыйнай.**

Раніцай 22 красавіка 30-гадовая жыхарка Маладзечна на аўто "Опель-Астра" ехала па Вялікім Гасцінцы.

На скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Гарадоцкай паварочвала налева і не саступіла дарогу аўтамабілю "Сеат-Ібіца". Гэтым яна стварыла аварыйную сітуацыю. На жанчыну склалі пратакол.

У гэты ж дзень у 16:40 ад дома №81 па Вялікім Гасцінцы ад'язджаў заднім ходам 23-гадовы кіроўца на аўтамабілі "Сітраэн". Ён не заўважыў "Рэно-Сцэнік", які рухаўся па дарозе. У выніку сутыкнення нанёс "Рэно" механічныя пашкоджанні. Кіроўца "Сітраэна" заплаціў штраф 210 тысяч рублёў.

Яшчэ адна аварыя адбылася ў 22:40 у Рагазах. 18-гадовая дзяўчына на "Пежо" не саступіла дарогу аўтамабілю "Форд-Мандэа", які рухаўся па галоўнай дарозе.

Жыхары суседніх з месцам здарэння дамоў лічаць, што калі б паклалі "ляжачага паліцэйскага", то гэта дапамагло б зрабіць скрыжаванне менш аварыйным.

На што інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош** адказаў:

– Там стаіць знак "Стоп", чаму гэтага недастаткова, каб не парушаць правілы?

Дзяўчыне-парушальніцы правілаў дарожнага руху пагражае штраф ад 5 да 20 базавых велічынь, або пазбаўленне правоў да двух гадоў.

Напрыканцы дня, каля 21 гадзіны вечара, адбылося чарговае ДТЗ.

26-гадовая маладзечанка на "Фольксваген-Пасат" ехала па Вялікім Гасцінцы. На перакрыжаванні з вуліцай Забэйды-Суміцкага, на нерэгуляваным пешаходным пераходзе, яна наехала на 62-гадовую маладзечанку.

Жанчына не была пазначаная флікерам. З закрытай чэрапна-мазгавой траўмай цяжкай ступені і пераломам правай галёнкі яе шпіталізавалі ў ЦРБ №1 у Маладзечне. Праводзяць праверку.

Пра здарэнні распавёў дзяржаўтаінспектар Сяргей Бартош.

**Аддзел інфармацыі.**

# Даследчая праца давяла да Стакгольма

## Мядзельскі гімназіст прадставіць Беларусь на юніёрскім водным конкурсе

МЯДЗЕЛ

**Як даследчая праца можа стаць хобі і што трэба, каб прадставіць краіну на прэстыжным міжнародным конкурсе.**

Пра гэта раскажа адзінаццацікласнік гімназіі-інтэрната Мядзела **Дзяніс Марач**, які перамог на рэспубліканскім этапе Стакгольмскага юніёрскага воднага конкурсу. Абышоў ён 126 вучняў, якія ўдзельнічалі сёлета. Яго праца "Комплексная экалагічная ацэнка стану рэк, прыгодных для нерасту прахадных ласасёвых рыб у Беларусі" напісаная па выніках даследаванняў у Астравецкім раёне.

### Тэму выбіраў па хобі

Дзяніс пачаў займацца даследчай дзейнасцю з сёмага класа. У гімназію прыехала навуковая супрацоўніца Нарачанскай біястанцыі Белдзяржуніверсітэта **Юлія Верас**, запрасіла ў гурток, каб паглыблена вывучаць біялогію і займацца даследчыцкай працай. Запісалася ў яго тады нямала вучняў. Але ўрэшце засталіся тры чалавекі: **Алёна Грыгалёнак**, **Таццяна Кавалёнак** і Дзяніс. Разам удзельнічаюць у даследаваннях.

Першая даследчая праца была прысвечаная рачулцы Дробня. Потым Дзяніс шукаў новую тэму – выбраў, звязаную з ласасёвымі рыбамі на Беларусі.

– Маё хобі – рыбалка, таму і падабаецца вывучаць рыб, – тлумачыць. – Адразу не паверыў, што ў нас водзяцца ласасёвыя рыбы. Але калі пачаў займацца, з'ездзіў пару раз на Астравеччыну і пераканаўся, што так і ёсць.

Займаецца гэтай працай ужо чатыры гады.

**– Што за гэты час удалося зрабіць?**

– Цалкам даследаваць маленькія рэкі ў Астравецкім раёне – прыткі Віліі. У год разы тры выязджаем. Праходзім кожную раку, глядзім на наяўнасць перашкод для рыбы, робім розныя вымярэнні, апісваем. Назапасілі шмат матэрыялаў па гэтых рэках.

Дапамагаюць хлопцу ва ўсім настаўніца біялогіі гімназіі-інтэрната **Людміла Шчалкунова** і ўжо згаданая Юлія Верас.

Падчас даследаванняў Дзяніс правёў ацэнку стану рэк, якія выкарыстоўваюць для нерасту ласасёвыя.

Даследаваў больш дэталёва рэчкі Дудка, Сенканка, ручай Тартак – паколькі тут было больш за ўсё месцаў нерасту.

– Падчас будаўніцтва гідраэлектрастанцый у Еўропе стваралі дамбы. Хоць і рабілі рыбаадводы, каб рыба магла прайсці, яе нашмат менш праходзіць па цячэнні. А якой удаецца, да Беларусі практычна не даходзіць і застаецца нерасціцца за мяжой, – тлумачыць ён. – У нашай краіне засталося мала рэк, у якіх ёсць такія ласасёвыя рыбы, як кумжа і сёмга. Цяпер для іх застаўся толькі адзін шлях: па Віліі ў яе прыткі і ручаі. Таму трэба прыняць захады, каб захаваць іх, бо інакш не будзе такой магчымасці, каб у нашы рэкі заходзілі ласасёвыя рыбы.

**– Што гэтым рэкам пагражае?**

– Яны неглыбокія, і любое, нават невялікае, уздзеянне чалавека можа моцна змяніць гэтыя рэкі. Любы змыў з палёў можа парушыць хімічны склад вады, што не спадабаецца рыбам, і яны не будуць заходзіць туды на нераст. І браканьеры пагражаюць. Падчас нерасту ў лістападзе-снежні энтузіясты арганізуюць патрулі, сочаць, каб не было браканьераў. Пару дзён таксама патруляваў.

### Праца Дзяніса актуальная і для Швецыі

За гэтыя гады Дзяніс неаднойчы быў прызёрам рэспубліканскага конкурсу біёлага-экалагічных работ. На днях стаў пераможцам 23-х Усерасійскіх юнацкіх чытанняў імя Вярнадскага.

У рэспубліканскім этапе Стакгольмскага юніёрскага воднага конкурсу Дзяніс удзельнічаў два гады: летась заняў другое месца.

**– Што неабходна, каб выйграць беларускі этап?**

– Галоўнае, жаданне і энтузіязм, бо магчымасцяў цяпер шмат. У фінале журы глядзіць, наколькі моцна і якасна зробленая праца, наколькі яна актуальная, як прадстаўлена, задаюць пытанні.

Мяркуе Дзяніс, што паспрыяла таксама тое, што праца актуальная і для Швецыі.

– Ласасёвыя менавіта з Балтыйскага мора прыходзяць да нас у рэкі. І ў замежжы скарачаюцца месцы нерасту. Трэба прымаць захады, каб супрацьстаяць гэтаму. У Швецыі з 83 прыгодных для нерасту рэк ласасёвыя нерастуюць у 11.

**– Ці ёсць практычнае значэнне вашай працы?**

– Нашы даныя могуць выкарыстоўваць у розных краінах, дзе ёсць нераставыя рэкі – для паляпшэння іх стану. Там могуць скарыстацца інфармацыяй, каб не рабіць адну і тую работу. У выніку будзе лягчэй захаваць падобныя рэкі.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Дзяніс Марач паедзе ў Стакгольм прадстаўляць Беларусь.

### Плюс англійская мова

Дзяніс прызнаецца, што даследчая праца стала для яго як хобі.

– Я цікава праводжу час. Займаюся тым, што мне падабаецца. А яшчэ яна дапамагае вывучыць штосьці новае. Навучыўся даследаваць рэкі, устанаўліваць асноўныя параметры, рабіць высновы. Мае працы больш звязаныя з экалогіяй, а гэта навучыла больш беражліва адносіцца да прыроды.

Конкурс і англійскую мову прымусіў падцягнуць. Яна на рэспубліканскім этапе абавязкова патрэбная – інакш у склад каманды на міжнародны фінал не трапіш.

Прыкінуў Дзяніс, што на даследчую працу ў тыдзень сыходзіць цэлы дзень. Кожную суботу ездзіць на Нарачанскую біястанцыю, займаецца даследчай працай. Калі атрымліваецца, выязджае на рэкі. Плюс яшчэ дома займаецца, зводзіць увесь матэрыял у спрошчаны выгляд, каб было зразумела нават неспецыялістам.

**– Не хочацца больш адпачыць, з сябрамі вольны час правесці?**

– Сябры скарыліся з гэтым. Ведаюць, што ў адны дні пагуляю з імі. А ў вызначаны дзень займаюся толькі даследчай працай і цалкам канцэнтруюся на ёй.

**– Твой рэцэпт: як зацікавіць моладзь даследчай працай?**

– Нават і не скажу. Калі ёсць цікавасць да такога занятку, то чалавек сам адарвецца ад камп'ютара і пачне займацца. Мне проста адразу стала цікава: сам працэс даследавання, праца на сучасным абсталяванні.

Дзяніс збіраецца выбраць прафесію, што пераплятаецца з хіміяй і экалогіяй.

### Узнагароду ўручае шведская прынцэса

Фінал Стакгольмскага юніёрскага воднага конкурсу пройдзе ў канцы жніўня.

Там будзе па адным удзельніку з больш чым 30 краін.

– Выберуць толькі двух пераможцаў. Адзін абсалютны, які атрымае вялікую прэмію, плюс узнагароджанне школе, у якой вучыцца. І яшчэ будзе заахвочвальны прыз за другое месца, – расказвае Дзяніс.

Уручае ўзнагароды спадчынніца трона Швецыі прынцэса Вікторыя. Удзельнікі таксама прымуць удзел у міжнароднай канферэнцыі па праблемах вады.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# Віляйчанка на праекце "Горад" шукае дадатковыя сродкі для скейт-парку

ВІЛЕЙКА

**Намесніца дырэктара Палаца культуры Вольга Шляпо ўвайшла ў лік удзельнікаў праекта "Горад", пра які паведамлялі на нашым сайце.**

Накіраваны ён на рэалізацыю праектаў па паляпшэнні гарадоў. Штотыдзень шоу паказваюць на партале tut.by.

Вольга падала заяўку на ўдзел у "Гарадзе" ў пошуках магчымасцяў па прыцягненні дадатковых сродкаў для рэалізацыі праекта "Скейт-парк". Вілейскі праект адобрылі сябры журы разам з іншымі 19 праектамі з розных гарадоў Беларусі. Удзельнікаў запрасілі ў Мінск для праходжання курса навучання.

– За тыдзень навучання мы атрымлівалі неабходныя майстар-класы, трэнінгі, сустракаліся з цікавымі людзьмі, у якіх быў досвед рэалізацыі праектаў. З задавальненнем паслухала адукацыйныя лекцыі, рада знаёмству з іншымі крэатыўнымі ўдзельнікамі праекта. Новыя знаёмствы, кантакты і карысная інфармацыя натхнілі мяне на далейшыя дзеянні па ажыццяўленні праекта, – дзеліцца Вольга Шляпо.

Наступны этап – гэта выкананне дамашніх заданняў і абарона праектаў перад сябрамі журы.

Сярод іншага Вользе трэба было распрацаваць анкету фестывалю моладзевых субкультур "Энергія маладосці" і правесці апытанне сярод юных віляйчан аб яго праграме. Гэта і ажыццявілі разам з камандай. Цяпер віляйчанка працуе над выкананнем якаснай прэзентацыі праекта.

Далей журы абярэ тры лепшыя праекты. Сярод іх размяркуюць прызавы фонд у 50 мільёнаў рублёў.

– Спадзяюся на поспех і веру, што "Горад" дапаможа нам рэалізаваць праект "Скейт-парк", – кажа Вольга.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# Мастачка прывезла ў Вілейку цёплы свет цудаў

ВІЛЕЙКА

**Ад яе карцін усмешка сама з'яўляецца на твары, умомант узнімаецца настрой і нават здараюцца цуды. Якія? "Я вярнулася ў дзяцінства, я пабывала ў казцы, я пазнала свае сны".**

Такімі ўражаннямі ад знаёмства з творчасцю **Ганны Сілівончык** дзеляцца аматары мастацтва.

Выстава мастачкі "Гэты чароўны свет" адкрылася 21 красавіка ў выставачнай зале імя Сілівановіча. Там выставілі 22 працы.

– Усе яны яркія, непаўторныя і ў той жа час па-дзіцячы наіўныя. На палотнах мастачкі раскрываецца пяшчотны, цёплы свет цудаў, – дзеліцца навуковая супрацоўніца Вілейскага краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – Дзеці, анёлы, казкі і фантазіі, вяснушкі і праменьчыкі ў вачах – усё гэта надае палотнам Ганны Сілівончык такі зарад пазітыву, ад якога хочацца скакаць, смяяцца, весяліцца, разагнаўшы шэрасць і хмурнасць. Як спяваецца ў вядомай песні – "Ад усмешкі будзе усім святлей". І Ганна Сілівончык прынесла гэты свет віляйчанам сваёй выставай.

Мастачцы не атрымалася прыехаць, таму выставу адкрывалі без яе. Паказалі відэаролік аб Ганне, у якім расказваецца пра яе творчасць і сям'ю.

Апроч знаёмства з карцінамі, на прэзентацыі прачыталі напісаныя Ганнай Сілівончык вершы і казкі.

Працягнецца выстава да 15 мая.

Алесь ВЫСОЦКІ.

**Даведка "РГ". Ганна Сілівончык** нарадзілася ў 1980 годзе ў Гомелі, жыве і працуе ў Мінску. Скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Ад 2008 года з'яўляецца сябрам Беларускага Саюза мастакоў. Яе творы захоўваюцца ў музеях Беларусі, ЗША і Расіі, а таксама ва ўласных калекцыях Беларусі, Расіі, Францыі, ЗША, Японіі, Ізраіля, Італіі, Германіі, Польшчы і іншых краін.



Мастакі Наталля і Мікалай Аўчыннікавы падчас адкрыцця выставы.

## Нашто мне трэцяе крыло, калі ёсць мае бацькі?

МАЛАДЗЕЧНА

**Першая сямейная выстава Наталлі і Міколы Аўчыннікавых "У кругазвароце аднаўлення" адкрылася ў Маладзечне ў пятніцу, 22 красавіка.**

Урачыстае адкрыццё прайшло ўтульна і пасямейнаму. Ад вялікай колькасці цёплых слоў, здавалася, нават кветкі на карцінах Наталлі Аўчыннікавай станавіліся ярчэйшымі, а палотны Міколы Аўчыннікава ажно ажывалі, калі калегі, сябры, сям'я хвалілі іх аўтара.

У прывітальным слове сын Наталлі і Міколы **Альберт** прызнаўся, што часцей за ўсё у сваім жыцці чуе пытанне, чаму ён не стаў мастаком. На што Альберт адказвае:

– Нашто быць трэцім крылом, калі ёсць два крылы – мае бацькі, якія дапаўняюць адзін аднаго?

Калегі Міколы Аўчыннікава па гімназіі-каледжы мастацтваў хваліліся тым, што ім, як нікому, пашанцавала, што побач з імі працуе Майстар.

А дырэктарка гімназіі-каледжа мастацтваў **Вольга Хазікава** прапанавала Наталлі Аўчыннікавай стаць выкладчыцай гэтай установы.

Таму можа стацца, што Мікола і Наталля будуць двума крыламі не толькі ў мастацтве, але і ў выкладчыцкай дзейнасці.

А саму выставу можна наведаць да 13 мая.

**Наталля ТУР.**

**Больш здымкаў глядзіце Rh.by**

## Хор "Світанак" сёмы раз пацвердзіў званне народнага

МАЛАДЗЕЧНА

Хор "Світанак" гімназіі №7 зноў пацвердзіў званне народнага хору.

Рэпертуар калектыву самы разнастайны: старадаўнія беларускія песні, руская і замежная класіка, беларускія народныя песні ў апрацоўцы сучасных аўтараў. Можна пачуць і ўсім вядомую "Ой, цветет калина", і музычныя творы на словы Уладзіміра Карызны, і сібірскую скорагаворку, і чылійскую народную песню.

Хор настаўнікаў "Світанак" заснаваў у 1969 годзе **Мікалай Елісеенкаў**. А ў 1991 годзе ён атрымаў званне "народны" (узорны аматарскі калектыў). Сёння калектыў налічвае 28 чалавек, гэта настаўнікі і работнікі гімназіі. Ад 1995 года кіруе хорам **Вольга Бялько**.

Харавы калектыў шмат працуе для прапаганды музычнай культуры сярод вучняў, бацькоў, насельніцтва. Ужо традыцыйнымі сталі выступленні хору для жыхароў мікрараёна і гасцей гімназіі, кранальныя канцэрты для ветэранаў вайны і працы ў санаторыях Маладзечанскага раёна. Хор "Світанак" пастаянна ўдзельнічае ў гарадскіх святах і фестывалях.

Калектыў праявіў сябе і на Беларускім фестывалі-конкурсе харавой музыкі "Рэха", стаўшы лаўрэатам.

У межах Года гасціннасці "Світанак" арганізаваў творчую сустрэчу з народным ансамблем "Вербніца" з Брэста і яго кіраўніком кампазітарам **Віктарам Фяцісавым**.

У 2015 годзе народны хор адзначыў сваё 45-годдзе вялікім канцэртным выступленнем. Сярод ганаровых гасцей прысутнічаў кампазітар і прадзюсар **Алег Елісеенкаў**. Ён адзначыў высокі ўзровень выканальніцкага майстэрства калектыву.

**Тацццяна РАДКЕВІЧ, намеснік дырэктара гімназіі №7 Маладзечна.**



Госці ў музеі "Вілейшчына літаратурная" – Людміла Рублеўская і Віктар Шніп.

# У Ілы адкрылі дошку Змітраку Бядулю

ВІЛЕЙКА

**20 красавіка ў Ільянскай сярэдняй школе адбылася гістарычна значная падзея – на прышкольнай тэрыторыі адкрылі мемарыяльную дошку, прысвечаную беларускаму пісьменніку Змітраку Бядулю (Самуілу Плаўніку).**

Дошку адкрылі з нагоды яго 130-годдзя па ініцыятыве кіраўніка музея "Вілейшчына літаратурная" **Розы Шэрай** і пры падтрымцы адміністрацыі школы.

Якія ж адносіны да нашай вёскі меў Змітрок Бядуля? Будучы пісьменнік па жаданні бацькі вучыўся ў Ільянскім ешыбоце на іудзейскага святара – рабіна ад 1899 да 1901 года. Сюды ён перайшоў з Даўгінаўскага ешыбота, бо ад Ілы да роднай вёскі Пасадзец, што на Лагойшчыне, было бліжэй і зручней дабірацца. У Ілы разам з іншымі прыезджымі навучэнцамі Самуіл харчаваўся ў сем'ях мясцовых яўрэяў.

Ганаровую місію – адкрыццё дошкі – выканалі госці – паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" **Віктар Шніп** і пісьменніца, журналістка, член Саюза беларускіх пісьменнікаў **Людміла Рублеўская**. У час адкрыцця дошкі навучэнцы школы паведамілі звесткі з жыцця Змітрака Бядулі, прачыталі вершы.

Пасля госці правялі сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі. Віктар Анатольевіч чытаў уласныя вершы, у тым ліку і баладу, прысвечаную Змітраку Бядулю, расказваў пра сваё дзяцінства, пра пачатак творчага шляху. Людміла Іванаўна заваявала сэрцы маленькіх (ды і дарослых) слухачоў, калі прачытала казку са сваёй кнігі "Прыгоды мышкі Пік-Пік". Потым былі пытанні.

**– Што Вас, таленавітую паэтку, прымусіла звярнуцца да празаічных твораў на гістарычную тэматыку?** – не маглі не спытаць мы ў аўтаркі вядомых гістарычных раманаў Людмілы Рублеўскай.

– Многія лічаць, што ў беларускай літаратуры толькі дзве тэмы – вёска і вайна. Чытаючы Дзюма і Скота, я зайздросціла літаратуры іншых народаў і думала, чаму ж у нас не адбывалася нічога цікавага? А як аказалася, у нас усё было: і рыцары, і чароўныя дамы, за якіх яны змагаліся на рыцарскіх турнірах, і двубоі, і замкі-палацы, і нават па колькасці прывідаў Беларусь можна параўнаць з той жа Ірландыяй. У сваіх творах я імкнуся паказаць гісторыю Беларусі як гісторыю еўрапейскай краіны і зрабіць гэта па максімуму займальна, – так растлумачыла зварот да тэмы гісторыі Беларусі Людміла Рублеўская.

Па словах гасцей, адкрыццё дошкі вядомаму беларускаму пісьменніку – вельмі важная падзея для школы, вёскі, раёна і нават рэспублікі. Няхай не ўсе юныя ільянцы пакуль усвядомілі адказнасць мерапрыемства, прыйдзе час, і яны зразумеюць і значнасць гэтага моманту, і сэнс радкоў Змітрака Бядулі, выбітых на дошцы:

"Я – кропля вялікага творчага мора".

**Аксана ЯРАШОНАК, педагог-арганізатар Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.**

## Аксана Ярашонак склала акраверш да дня народзінаў "Рэгіянальнай газеты"

Сёлета яна павіншавала "РГ" з днём нараджэння, якое газета адзначае 28 красавіка. Газеце беларускага Павілля споўніўся 21 год.

**Аксана Ярашонак** – педагог у ільянскай школе, паэтка, аўтар "РГ", а сёлета яна ўзяла на сябе ролю вядучай паэтычнай старонкі "Літпарад Павілля".

**Р**азгарнуліся старонкі –
**Э**х! За справай Ярашонкі:
**Г**ляне тата пра машыны
**І** спартыўныя навіны.
**Я**к жа у культуры справы? –
**Н**ашай мамачцы цікава.
**А** яшчэ сказалі дзеці:
**Л**юбім конкурсы ў газеце!
**К**арацей, натхнення, плёну
**А**д сям'і і рэгіёну!




**Даведка "РГ".**
**Акраверш** – верш, у якім першыя літары кожнага радка ўтвараюць пэўнае слова, калі чытаць іх зверху ўніз.

# Удзельніца “Міс Беларусь”: Схуднеласцю сёння нікога не здзівіш.

## А вось прыгожым целам здзівіць можна

МАЛАДЗЕЧНА

**Пагутарыць з Анастасіяй Сарокай, якая на “Міс Беларусь” прадстаўляе Маладзечна, цяпер не так проста. Ад самай раніцы да позняга вечара, без выхадных, яна занятая падрыхтоўкай да конкурсу.**

Стэлефаноўваемся дзесьці каля 23 гадзін, але Анастасія адказвае бадзёрым голасам, падчас гутаркі не пазяхае і быццам бы зусім не стомленая.

**– Чым занятыя цяпер увесь дзень?**

– Цяпер занятая ад 9 раніцы да 10 вечара. Дэфіле, харэаграфія, выязныя здымкі, фотасесіі, відэапраекты. Але асноўнае – харэаграфія і дэфіле.

**– Складана?**

– Мне не ўпершыню, таму нічога асабліва складанага для мяне няма. Кожны дзень без выхадных – вось гэта, мабыць, самае цяжкае.

Я скончыла музычную школу па класе фартэпіяна, спявала ў хоры, прафесійна займалася вакалам. Дзесяць гадоў хадзіла на бальныя танцы. Бацькі кажуць, я ўжо ў тры гады танцавала і спявала ў садку, хаця сама гэтага не памятаю. Добра, відаць, захавалася.

Таму падрыхтоўка – занятак вельмі цікавы. Тым больш, што ў мяне атрымоўваецца. Тое, што танцамі займалася, вельмі дапамагае. Хутка цямлю. Цяпер змагаюся з няўпэўненасцю, якая з’яўляецца, калі трэба гаварыць у камеру. Вучуся быць сапраўднай. Цудоўна, што з намі працуе пазітыўная каманда.

**– Думалі калі-небудзь пра тое, каб паўдзельнічаць у такім конкурсе?**

– Ніколі пра гэта не думала. Калі мяне запрасілі ўзяць удзел у прэзідэнцкім балі на Стары Новы год, дырэктар Нацыянальнай школы прыгажосці, якая рыхтавала нас, прапанавала паўдзельнічаць у “Міс Беларусь”. Я тады сказала, што нават не думала пра гэта. Але пасля думка ў маёй галаве пачала рабіцца ўсё больш навязлівай. Прытым, што і сяброўка **Аня Собалева** захацела паўдзельнічаць, і мы разам пайшлі і трапілі ў фінал.

**– Раней удзельнічалі ў падобных конкурсах?**

– Сёлета 4 сакавіка ўдзельнічала ў “Міс МДЛУ”. Стала першай віцэ-міс. Гэта была добрая падрыхтоўка перад “Міс Беларусь”. Мой такі невялічкі старт.

**– Што ўкладаеце ў паняцце жаночай прыгажосці?**

– Гэта не толькі знешняя прыгажосць. Цяпер цэніцца ўнутраная прыгажосць. Адукацыя і самаадукацыя, інтэлігентнасць, выхаванасць, маральныя каштоўнасці. Тое, як дзяўчына сябе падае.

**– Як ставіцеся да конкурсу “Міс Маладзечна”? Ці сочыце, як там ідзе падрыхтоўка?**

– Шчыра, не сачу. Проста няма часу, каб цікавіцца. Але колькі гадоў таму ў ім удзельнічала мая сяброўка **Мілона Міхайлава**, яна тады стала першай віцэ-міс. Тады я яе падтрымлівала, назірала, як праходзіў конкурс: на досыць высокім узроўні.

**– Як сям’я адрэагавала на тое, што бераце ўдзел у такім конкурсе?**

– Пра мой удзел у адборы ведалі толькі маці з бацькам. Больш нікому з родных і сяброў не гаварыла. Першы адбор праходзіў 13-14 лютага. Я прыйшла ў першы дзень. Спачатку было сумоўе, на якім мяне папрасілі на роднай мове распавесці пра ўніверсітэт. Я справілася. Кагосьці прасілі распавесці пра Еўфрасінню Полацкую ці Грунвальдскую бітву. Карацей, пытанні былі розныя і нечаканыя для нас. Потым было дэфіле ў купальніках, фотасесія. Прыкладна праз месяц нам патэлефанавалі і сказалі, хто трапіў у 40 тых, якія прайшлі ў наступны этап адбору. А пасля ўжо на тэлеканале ОНТ адабралі 25 фіналістак.

**– Дзеля чаго ўдзельнічаеце ў конкурсе?**

– Гэта вялікі гонар прадстаўляць на конкурсе невялікі горад. Гэта як доказ таго, што дзяўчаты з невялікіх гарадоў таксама таленавітыя і прыгожыя і могуць змагацца за тытул з мінчанкамі. Тут выбіраюць ідэал жаноцкасці і прыгажосці. За намі ўвесь час назіраюць: не толькі праз аб’ектывы фотакамер, але і тады, калі нас ніхто не здымае. Гэта, можа, яшчэ больш важна, чым тое, як мы сябе паводзім перад камерай.

Конкурс – гэта яшчэ адзін крок, які дапаможа перамагчы ўсе страхі і комплексы, якія ёсць амаль у кожнага чалавека. Будзем ісці толькі наперад!

**– Дыеты, фітнес-клубы – гэта пра вас?**

– Не магу сказаць, што ўвесь час сяджу на дыетах, але імкнуся харчавацца правільна, не злоўжываць салодкім, хаця часам вельмі хочацца.

Фітнес – гэта толькі як падтрымка формы. Схуднеласцю сёння нікога не здзівіш. А вось прыгожым целам здзівіць можна.

**– Што чыталі апошнім часам?**

– Паколькі я вучуся ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, то чытаю тое, што трэба рыхтаваць да экзаменаў. З апошняга “Партрэт Дорыяна Грэя” **Оскара Уайльда** і “Гонар і прадузятасць” **Джэйн Осцін** у арыгінале.

**– Збіраецеся працягнуць мадэльную кар’еру?**

– Калі будзе атрымлівацца, то так. Магчыма, паспрабую папрацаваць на тэлебачанні. Цяпер у тыдні моды ўдзельнічаю. Увогуле, усё пачалося ў пачатку мінулага года. Праходзіла паказ “Керамін – 2015”, я прыйшла на кастынг, мяне ўзялі. Пасля пачалі запрашаць у мадэльныя агенцтвы, але я да іх не даходзіла. Больш удзельнічала ў рэкламных праектах. Вось калі адабралі для ўдзелу ў беларускім тыдні моды, тады стала больш заўважнай і для фатографаў, і для дызайнераў, і ўсё больш і больш прапаноў атрымоўваю.

**Настасся РОЎДА.**



Фота Вікторыі АЛІСЕВІЧ.

Удзельніца конкурсу “Міс Беларусь” з Маладзечна Анастасія Сарока.

## Як удзельніцы конкурсу "Міс Маладзечна" працавалі на суботніку

МАЛАДЗЕЧНА

**Суботнік прайшоў 23 красавіка.**

Прыгажуні з Маладзечна працавалі раніцай каля Палаца культуры. Праца спалучалася з фотасесіяй, таму дзяўчаты не сумавалі.

Суботнік – толькі адна з акцый, у якіх удзельнічаюць прэтэндэнткі на званне “Міс Маладзечна”.

**Настасся РОЎДА.**
**Фота аўтара.**



Караліна Лобач.



Юлія Шалкоўская, Лізавета Данілава і Дар’я Івашкавец.



Юлія Абцэвіч і Алёна Паланцэвіч.



Ганна Кішкурна.

НАВІНЫ

## “Ашмяны” прайгралі ў першым дамашнім матчы

АШМЯНЫ

Свой першы дамашні матч у чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе ФК “Ашмяны” правялі 23 красавіка. У другім туры каманда сустракалася са “Слонімам”.

Падтрымаць футбалістаў на стадыён фізкультурна-аздараўленчага комплексу прыйшло каля 600 гледачоў.

– Нягледзячы на гарачую падтрымку трыбун, “Ашмяны” саступілі “Слоніму” з лікам 0:1, – расказаў прэс-аташэ ФК “Ашмяны” **Аляксандр Навумчык**. – Гульня была на роўных. Моманты былі ў абедзвюх камандаў, але адна прыкрая памылка прывяла да голу. Напэўна, не хапіла канцэнтрацыі на ўвесь матч.

Прапусцілі гол ашмянцы на 75-й хвіліне. У гасцей адзначыўся **Аляксей Плесуноў**.

Наступны матч “Ашмяны” правядуць 30 красавіка на выездзе з “Зоркай-БДУ” з Мінска.

## “Смаргонь” перамагла “Смалявічы-СТІ”

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

“Смаргонь” таксама дома 24 красавіка прымала “Смалявічы-СТІ” і выйграла 1:0. Гол на 84-й хвіліне забіў **Сяргей Крот.**

– Мы з **Эдуардам Чудноўскім** на трэніроўках адточвалі паразуменне, гэта і прынесла свой плён. Падача – удар галавой – гол. Можна сказаць, выкарыстаў свой канёк, – прыводзіць словы Сяргея афіцыйны сайт клуба.

Ацаніў гульню Сяргей Крот так:

– Вясновы матч. Якасць газона не надта дазваляла гуляць у кароткі пас. Таму гульня зводзілася на барацьбу і доўгія перадачы. Абедзве каманды выглядалі годна, але мы выкарысталі свой момант. За кошт гэтага і перамаглі.

## У Ашмянах збяруцца паўэрліфтары

АШМЯНЫ

У Ашмянах ад 4 да 8 мая пройдзе тыдзень класічнага паўэрліфтынгу 2016. Спартсмены пазмагаюцца ў адкрытым чэмпіянаце рэспублікі ў трохбор'і і жыме лежачы сярод мужчын і жанчын і на адкрытым першынстве рэспублікі ў гэтых відах сярод юнакоў і дзяўчат, юніёраў і юніёрак ды ветэранаў.

Нагадаем, што ў канцы студзеня ў Ашмянах праходзіў тыдзень экіпіровачнага паўэрліфтынгу.

## Зборная святароў і парафіян абыграла каманду райвыканкама

МЯДЗЕЛ

У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры 20 красавіка прайшоў таварыскі матч па міні-футболе. Гулялі каманды райвыканкама і зборная святароў і парафіян рыма-каталіцкай канфесіі. Сярод парафіян былі і гульцы, якія выступалі ў чэмпіянаце раёна па міні-футболе.

Першы тайм завяршыўся з лікам 5:0 на карысць зборнай святароў і парафіян. А выніковы лік 13:0.

– У каманды райвыканкама было толькі пару момантаў, і тыя ліквідаваў варатар сапернікаў. Каманда святароў узяла рэванш за пройгрыш у матчы, які прайшоў некалькі год таму, – расказвае дырэктар цэнтра **Андрэй Русак**. – Такія сустрэчы будуць працягвацца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Футбольны клуб “Іслач” запрашае на стадыён з 50% зніжкай

МАЛАДЗЕЧНА

30 красавіка ў 15:00 на гарадскім стадыёне пачаткоўцы вышэйшай лігі, каманда “Іслач”, прымае футбольны клуб “Дынама Брэст”.

Як абяцала кіраўніцтва каманды, маладзечанцы змогуць купіць білеты на матч з 50% зніжкай.

“Іслач”, як заўсёды, абяцае атакуючы футбол, пастараецца выправіцца за сумныя нулі на матчы з “Крумкачамі” і забаўляльную праграму для заўзятараў.

На стадыёне, як і ў мінулы раз, будуць раздаваць паветраныя шары, арганізуюць бясплатны пракат iscooter`ов і дзіцячых электрамабіляў, бясплатна дзецям можна будзе правесці час на батуце. Па традыцыі ўсе білеты на матч будуць удзельнічаць у розыгрышы падарункаў з сімволікай клуба.

Будуць працаваць пункты грамадскага харчавання.

Кіраўніцтва каманды нагадвае аматарам футбола, што прыходзіць на стадыён можна загадзя, а не чакаць да апошніх хвілін.

**Наталля ТУР.**

# Ашмянцы занялі другое месца на першынстве Еўропы

АШМЯНЫ

**Ад 13 да 17 красавіка ў іспанскай Малазе праходзіла першынство Еўропы па паўэрліфтынгу. Зборная Беларусі ўпершыню ў гісторыі беларускага экіпіровачнага паўэрліфтынгу заняла на іх другое агульнакаманднае месца.**



Фота забяспечанае САК “Аякс”.

Ашмянская каманда фатаграфуецца пасля спаборніцтваў. Злева направа: Альберт Станкевіч, Аліна Чашчына, Дзмітры Кіроўскі, Мацвей Станкевіч. На пярэднім плане Крысціна Шлыковіч.

Складалася яна з ашмянскіх атлетаў.

**Дзмітры Кіроўскі** выступаў у вагавой катэгорыі да 66 кг. На яго рахунку тры малыя медалі ў практыкаваннях – залаты і два сярэбраныя. У выніку ў трохбор'і ва ўпартай барацьбе са спартсменам з Іспаніі ён быў другім з сумай 495 кг.

**Альберт Станкевіч** стаў самы юным удзельнікам першынства. У вагавой катэгорыі да 53 кг ён заваяваў у практыкаваннях два другія месцы і адно трэцяе. Стаў трэцім па выніках трохбор'я. Ён толькі 2,5 кілаграма прайграў спартсмену з Літвы, які быў другі.

– Малага – выдатны горад, і спаборніцтвы прайшлі тут на высокім узроўні, – дзеліцца Альберт. – Мне вельмі яны спадабаліся. У першынстве прынялі ўдзел прадстаўнікі 20 краін. І вельмі рады, што наша каманда заняла на іх другое месца.

**Крысціна Шлыковіч таксама па выніках трохбор'я стала бронзавым прызёрам у вагавой катэгорыі да 57 кілаграмаў.**

– Толькі недалечаная траўма не дазволіла Крысціне змагацца за больш высокае месца, – паведаміў старшы трэнер юнацкай і юніёрскай зборнай Беларусі па паўэрліфтынгу **Міхаіл Станкевіч**. –

**На першым падыходзе ў прысяданні здавалася б ужо залечаная траўма спіны дала пра сябе знаць вострым болем.**

Пра барацьбу за больш высокае месца не магло ісці і размовы.

Крысціна сабралася і скончыла прысяданне з вынікам 135 кг – заваявала малы сярэбраны медаль.

Яшчэ на рахунку Крысціны малы бронзавы медаль у жыме, і малы сярэбраны – у становай цязе.

Найлепшыя вынікі сярод ашмянцаў – у **Аліны Чашчынай**. Яна перамагла ў трохбор'і з вынікам 290 кілаграмаў у вагавой катэгорыі да 43 кілаграмаў. А ў практыкаваннях у яе два першыя месцы і адно другое.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Стаў вядомы расклад гульняў чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе

МАЛАДЗЕЧНА

**19 красавіка ў сталічным Доме футбола адбылося лёсаванне чэмпіянату краіны ў другой лізе.**

Першынство пройдзе ў два кругі. Тры самыя моцныя каманды дывізіёна атрымаюць пуцёўкі ў першую лігу.

**У першым туры, матчы якога адбудуцца ў суботу, 30 мая, сустракаюцца:**

Рагачоў - **Забудова (Чысць, Маладзечанскі раён)**,
ДЮСШ-ДСК (Гомель) - **Маладзечна-ДЮСШ-4.**

Астатнія туры чэмпіянату Беларусі:

**2 тур – 7 - 8 мая.**
**Маладзечна-ДЮСШ-4** - Хваля (Пінск),
**Забудова (Чысць)** - Клецк

**3 тур – 21-22 мая.**
Нёман-Агра (Стоўбцы) - **Забудова (Чысць),**
Вертыкаль (Калінкавічы) - **Маладзечна-ДЮСШ-4.**

**4 тур – 28 мая.**
Мантажнік (Мазыр) - **Маладзечна-ДЮСШ-4,**
**Забудова (Чысць)** - ДЮСШ-ДСК (Гомель),

**5 тур – 4-5 чэрвеня.**
Хваля (Пінск) - **Забудова (Чысць),**
**Маладзечна-ДЮСШ-4** - Асіповічы.

**6 тур – 18-19 чэрвеня.**
ДСК (Гомель) - **Маладзечна-ДЮСШ-4,**
**Забудова (Чысць)** - Вертыкаль (Калінкавічы).

**7 тур – 25-26 чэрвеня.**
**Маладзечна-ДЮСШ-4 - Забудова (Чысць).**

**8 тур – 2-3 ліпеня.**
**Забудова (Чысць)** - Асіповічы,
Вікторыя (Мар'іна Горка) - **Маладзечна-ДЮСШ-4.**

**9 тур – 10 ліпеня.**
**Маладзечна-ДЮСШ-4** - Тарпеда (Магілёў),
Асіповічы - **Забудова (Чысць),**

**10 тур – 16-17 ліпеня.**
Мантажнік (Мазыр) - **Забудова (Чысць),**
ЮАС (Жыткавічы) - Маладзечна-ДЮСШ-4.

**11 тур – 23-24 ліпеня.**
**Маладзечна-ДЮСШ-4** - Рагачоў,
**Забудова (Чысць)** - Вікторыя (Мар'іна Горка).

**12 тур – 30 ліпеня.**
Тарпеда (Магілёў) - **Забудова (Чысць),**
Клецк - **Маладзечна-ДЮСШ-4.**

**13 тур – 6-7 жніўня.**
**Маладзечна-ДЮСШ-4** - Нёман-Агра (Стоўбцы),
**Забудова (Чысць)** - ЮАС (Жыткавічы).

Даты правядзення тураў могуць змяняцца.

15 мая адбудуцца матчы першай стадыі розыгрышу Кубка Беларусі – 2016-2017, 11-12 чэрвеня – паядынкі 1/32 фіналу, а 8-9 ліпеня – сустрэчы 1/16 фіналу.

**Наталля ТУР.**

## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

**У Ільянскай школе адкрылі мемарыяльную дошку ў гонар Змітрака Бядулі да 130-годдзя пісьменніка**

Малайцы, ільянцы! Велізарную выхаваўчую працу праводзяць! Адметную ролю, безумоўна, адыгрываюць кіраўнік музея Роза Канстанцінаўна і дырэктар школы Ігар Аляксандравіч. Як добра, што ёсць такія людзі з добрай душой і адкрытым сэрцам! ***Наталля Сянько***.

**Дударскія вечарыны ў Маладзечне: "Калі ўсё гэта бачыш, пачынаеш верыць, што ў нас ёсць будучыня" (+Фота)**

Я вельмі ганаруся тым, што мая цудоўная дачка Аленка Мятлюк знайшла сабе справу па душы пасля пераезду ў Маладзечна. Адраджэнне беларускай музыкі, спеваў, танцаў – вельмі важна для нас, беларусаў. ***Таццяна Мятлюк***.

**У цэнтры Маладзечна сярод старых 4-павярховак вырасце 9-павярхоўка. Начальнік аддзела архітэктуры кажа, што гэта архітэктурны акцэнт**

Пяціпавярхоўку пабудавала "Забудова" ў месцы шчыльнай забудовы па вуліцы Віленскай, 29-а, і грамадскасць прамаўчала! ***Nifeus***.

**Новы дырэктар кінатэатра "Мір" у Вілейцы Андрэй Дударчык: "Сатыра і гумар для мяне ў кіно на першым месцы"**

"Ёсць думкі, што можна новага зрабіць у кінатэатры? – Думак многа: можна зладзіць паэтычныя вечары, праводзіць дыскусійны клуб". Сур'ёзна? Паважаны Андрэй Мікалаевіч! Дайце для моладзі нармальны кінатэатр! Дайце свежыя фільмы. Мы таксама хочам глядзець тое, што на днях выйшла ў пракат, а не пасля ўсіх! У нашай моладзі няма дыскатэк (на нашых вачах усё закрылі), засталіся толькі піўнушкі, бары і рэстаран. Я ўпэўнены, што калі пастарацца, можна дабіцца паказу на наступны дзень у нас, пасля прэм'еры ў Мінску, калі пастарацца... Мы спадзяёмся і верым у вас, Андрэй Мікалаевіч! ***Ігар Філістовіч***.

# Мінскі абласны драматычны тэатр

**Рэпертуар на май**

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Казка пра чырвоную стужачку**" (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), Галіна Латышава, Алег Чэчанеў
12 мая – у 12:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-драматычны спектакль)
5 мая – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Плачу наперад**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*
17 мая – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**" (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
19 мая – у 19:00

"**13**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
24 мая – у 19:00

"**Не такі, як усе**" (камедыя ў 2-х дзеях), Аляксей Слапоўскі
31 мая – у 19:00

Кантактныя тэлефоны:
**75-29-16** – намеснік дырэктара,
**76-17-32** – галоўны адміністратар,
**75-24-17** – каса.
E-mail: madt@tut.by
УНП 600066659



● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | 6 | | | 9 | | 1 |
| | | 9 | 7 | | | | | 5 |
| 4 | | 6 | | | | 7 | | |
| | | 5 | 3 | 1 | | | | 9 |
| | | | 8 | | 5 | | | |
| 8 | | | | 2 | 7 | 5 | | |
| | | 4 | | | | 3 | | 7 |
| 9 | | | | | 1 | 8 | | |
| 5 | | 7 | | | 9 | | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● АФІША

# Як заплюшчыць вочы, калі твае сны спраўджваюцца:

## і прыгожыя фантазіі, і жудасныя кашмары

### Кіно Маладзечна

Кінатэатр "Радзіма" прапануе чатыры прэм'еры для майскіх выхадных.

У маі традыцыйна прапануюць новыя фільмы на ваенную тэматыку. Сёлета такім фільмам стала драма **"Мілы Ханс, дарагі Пётр"**. Гэты артхаўсны праект вытворчасці Вялікабрытаніі, Германіі, Расіі і Украіны распавядае пра вайну ў крыху нязвыклым рэчышчы. Нямецкі інжынер Ханс прыехаў у камандзіроўку ў Савецкі Саюз проста перад самай вайной. Перыяд часу пасля заключэння пакта Молатава-Рыбентропа – гэта кароткі час сяброўства і супрацоўніцтва паміж СССР і Германіяй. Пра яго мала вядома, таму ўвагу ад яго адцягваюць наступныя ваенныя рэаліі. У гэты час краіны абменьваліся спецыялістамі. І сюжэт заснаваны на сапраўдных падзеях, успамінах удзельнікаў апісанага.



Фота 5zvezd.ru.

Кадр з фільма "Мілы Ханс, дарагі Пётр".

Ханс працаваў на савецкім заводзе па вырабе высокадакладнай оптыкі, але падчас адказнай варкі на вытворчасці адбылася трагедыя. Сведкам гэтага стаў рабочы Пётр. Яны апынуліся ў залежнасці адзін ад аднаго, і абодва баяцца, што праўда стане вядомай. Пётр з жонкай і дзецьмі збягае з горада, таму што баіцца расстрэлу. А нямецкі інжынер замест аблягчэння адчувае страту.

Ханс вяртаецца ў тыя месцы ўжо ў афіцэрскай форме і глядзіць у бінокль праз створаныя ім лінзы: ці сапраўды было тое мірнае жыццё?

Слоган "Раздзяліўшыся, мы падаем" абралі стваральнікі фантастыкі **"Першы мсціўца: Супрацьстаянне"**. Супергероі сусвету Марвэл сышліся ў экранізацыі комікса "Грамадзянская вайна".

Урад вымагае супергерояў працаваць на патрэбы сваіх службаў. Частка людзей са звышздольнасцямі на чале з Тоні Старкам пагаджаецца на такія ўмовы, іншыя пад лідарствам Стыва Роджэрса супраць новага рэжыму. Паміж двума бакамі ўспыхвае грамадзянская вайна, а ў гэты ж час сітуацыю выкарыстоўвае на сваю карысць таямнічы злодзей.

Жахі **"Сомнія"** распавядаюць гісторыю маладой пары, якая страціла сына. Яны сталі прыёмнымі бацькамі для хлопчыка Кодзі. Хлопчык баяўся засынаць, таму што яго сны ажываюць.

Гэтыя сны могуць быць чароўныя, як самая прыгожая фантазія, а часам яму сняцца кашмары, ад якіх кроў стыне ў жылах. І такія кашмары небяспечныя смяротна.

Тэма абмену целамі дасягнула і расійскіх мультфільмаў. Стваральнікі прыгодаў **"Ваўкі і авечкі: бе-е-зразважнае ператварэнне"** літаральна ўвасобілі пагаворку "воўк у авечай шкуры".

Малады воўк Шэры атрымлівае асалоду ад жыцця, бо ўпэўнены, што нічога не можа быць лепшым, чым быць ваўком. Ён весела жыве і дурэе. Пры гэтым Шэры прэтэндуе на ролю важака стаі і на руку чароўнай ваўчыцы Б'янкі. Але каб палепшыць сябе, Шэры п'е чароўнае зелле, якое ператварае яго ў барана.

### Кіно Вілейкі

Кінатэатр "Мір" таксама прапануе прэм'еры "Сомнія" і "Ваўкі і авечкі: бе-е-зразважнае ператварэнне". Для сямейнага прагляду падыходзіць мультфільм "Рабінзон Круза: Вельмі заселены востраў".

Сёлетнія расійскія фільмы "Экіпаж" і "Герой" стануць добрай нагодай для сустрэчы з сябрамі.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце rh.by.**

● ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Пірог з вішнямі

**Гэты рэцэпт пірага даслала нам наша чытачка з Вілейкі Галіна Адамовіч. Ён падыдзе і да святочнага стала, і калі вам захочацца да кавы-чаю нечага салодзенькага.**

***Для цеста:*** *200 грамаў масла, адна шчопця солі, 3 шклянкі мукі, 1 шклянка кефіру, 1 чайная лыжка разрыхляльніку, ванілін (ванільны цукар) – па смаку.*

***Для начынкі:*** *500 грамаў вішань без костачак (можна замарожаныя), палова шклянкі цукру.*

Для цеста: прасейце муку ў міску, усыпце соль, разрыхляльнік, перамяшайце, дадайце размякчанае масла, ператрыцеце яго з мукой, затым уліце кефір і замясіце мяккае цеста. Пры неабходнасці можна падсыпаць яшчэ мукі.

Цеста раскачайце тонкім пластом, разрэжце на палоскі. У сярэдзіну кожнай палоскі пакладзіце рад вішань, пасыпце цукрам і сфарміруйце кілбаску.

Укладзіце начыненыя вішнямі кілбаскі спіраллю ў форму і выпякайце пры тэмпературы 200 градусаў да румянага колеру прыкладна 30-40 хвілін. Прыгатаваны пірог пасыпце цукровай пудрай.

**Проста МАРЫЯ.**

● ГАРАСКОП

29 КРАСАВІКА - 5 МАЯ

**Авен.** Не канфліктуйце з сябрамі і раднёй, бо пазбавіцеся не толькі той падтрымкі, але і ўзаемаадносінаў, якія для вас вельмі дарагія.

**Цялец.** Майце на ўвазе, што альтэрнатыўнай крыніцай радасці можа стаць і рамантычная сустрэча.

**Блізняты.** Пастарайцеся быць як мага больш уважлівымі, каб не згубіць якога-небудзь важнага дакумента.

**Рак.** Галоўныя складнікі поспеху – гэта ваша моцнае жаданне нешта зрабіць, вера ў поспех і, вядома ж, праца.

**Леў.** Зрабіце прыпынак у гэтым імклівым тэмпе жыцця, бо вы ўжо стаміліся і фізічна, і эмацыйна. Перагледзьце рабочы графік. Знайдзіце магчымасць для заняткаў спортам, актыўнага адпачынку.

**Дзева.** Жыццё ваша працякае ціха, без змяненняў. Стаўце мэты і будзьце больш настойлівыя ў іх дасягненні. Блізкі чалавек больш, чым звычайна, мае патрэбу ў вашай увазе і падтрымцы, удзяліце яму час.

**Шалі.** Жыццё сумнае без мэты. Вырашыце, што важна для вас, і пабудуйце сваё жыццё вакол гэтага.

**Скарпіён.** Вы моцна пагружаныя ў пытанні матэрыяльнага характару, і хоць ваш стан зараз даволі стабільны, вы не можаце разлічваць на гэта заўсёды. Вам трэба перагледзець свае погляды, бо грошы прыходзяць і сыходзяць, любыя матэрыяльныя каштоўнасці часовыя і не дазваляюць вам духоўна развівацца.

**Стралец.** Не будзьце прывязаныя да меркаванняў ці перакананняў грамадства. Будзьце адкрытыя для любой магчымасці ці ідэі. Вы здзівіцеся, як шмат магчымасцяў дае жыццё, калі іх не адкідаць.

**Казярог.** Спрыяльны перыяд для нейкіх пачынанняў, звязаных з работай і фінансавым станам. Але расходуйце свае сілы ў меру, не перастарайцеся. Дзейнічайце не напрамую, а ў абход, шукайце альтэрнатыўныя метады рашэння сітуацыі.

**Вадалей.** Не бярыце на сябе абавязацельствы, якія высмоктваюць з вас энергію.

**Рыбы.** Вы востра рэагуеце на ўсё, што адбываецца, часта перажываеце з-за дробязяў, часам раздражняецеся з-за рэчаў, на якія ў іншы час нават не звярнулі б увагі. Пастарайцеся сканцэнтравацца на тым, што сапраўды важна, а ўсё астатняе адкладзіце.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 30 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 / +13 | | +6 / +12 | | +8 / +8 | | +8 / +13 | |
| | 747 | ← 1 | 747 | ← 4 | 745 | ← 8 | 744 | ← 6 |
| Вільня | +4 / +13 | | +5 / +11 | | +9 / +6 | | +7 / +11 | |
| | 756 | ↖ 5 | 756 | ↙ 2 | 755 | ← 9 | 753 | ← 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.34
Захад 20.44
Даўжыня дня 15.10

Усход 2.47
Захад 12.16
Квадра 4




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -3,9 °C у 1981 годзе
Максімальная тэмпература +24,5 °C у 1977 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 18 мм у 1971 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Працягваем серыю гутарак з доктарам-псіхіятрам-нарколагам Аляксандрам Бажко. Высвятляем прычыны і наступствы неўрозу. А таксама, як яго перамагчы.**



ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што больш за ўсё вас раздражняе ў жанчынах?



**Васіль Казельскі, станочнік:**
– Больш за ўсё раздражняе, калі жанчына курыць. На такіх нават непрыемна глядзець. Ну і тыя, хто п'е, – таксама. Шкодныя звычкі – адзінае, чаго не магу дараваць жанчынам.



**Аляксандр Хітрун, кіроўца:**
– Адразу так цяжка сказаць, што раздражняе ў жанчынах цалкам. Але ў маёй другой палавіны ёсць маленькі недахоп – яна шмат часу праводзіць у інтэрнэце. А мне хацелася б, каб яна больш часу праводзіла са мной. Мне часам не хапае яе ўвагі.



**Дзмітры Рудык, спявак:**
– Бывае, калі заканчваецца жаночая логіка, ад гэтага церпіць мужчынская псіхіка. Напэўна, гэта і раздражняе, што я не магу зразумець жаночую логіку. А яшчэ раздражняе, калі жанчына крычыць і закочвае істэрыкі. Усё ж трэба паважаць адзін аднаго і берагчы мужчынскую псіхіку ад жаночай логікі.



**Георгі Лабудзеў, пенсіянер:**
– У жанчынах мяне раздражняе ўпартасць. Усё ж хочацца, каб яна часцей пад мужа падстройвалася. А з астатнім: і з балбатлівасцю, і з няўменнем нешта зрабіць, можна мірыцца. Я ва ўсякім разе гэта цярплю.



**Вольга Жарская, фатограф:**
– Ох, гэтыя жанчыны. Шмат слоў і мала справы. Я не такая. І сяброўкі мае залатыя. Мы, калі збіраемся разам, ніколі плёткі не распускаем, гутарым пра жыццё, пра дзяцей. А справы мне больш прыемна весці з мужчынамі. Я і з дзяцінства з адныміі хлопчыкамі сябравала.



**Вераніка Сяляўка, у дэкрэтным адпачынку:**
– Пляткаркі раздражняюць. Гэта самыя непрыемныя жанчыны. А драбяза калі там якая, то можна пра гэта сяброўцы і сказаць. Толькі асцярожна, каб не пакрыўдзіць. Я, напрыклад, не пакрыўджуся, калі мне скажуць пра мой недахоп. І пастараюся гэта ў сабе выправіць.



**Вераніка Кісель, цырульніца:**
– У жанчынах раздражняе іх раздражняльнасць. Тое, што настрой мяняецца часта. Хочацца, каб жанчыны былі больш мяккімі, спакойнымі, разважлівымі.

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№18 (1096) 29.04.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 397. Падпісана ў друк у 9.00 28.04.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.